*Мілагучнае, звонкае, сьпеўнае слова*



# ВЕРАС



gazeta@veras.f2s.com **Выданьне Віцебскай суполкі моладзі «ВЕРАС»** №6(6) ліпень 2000 г.

# III Усебеларускі зьезд: значная падзея ці прафанацыя?

У лютым 2000 года найвыдатнейшыя дзеячы беларускай культуры зьвярнуліся да грамадзянаў Беларусі з заклікам падтрымаць ідэю правядзеньня III Усебеларускага зьезду. Сярод падпісаных асоб прысутнічаюць такія прозьвішчы як Алесь Разанаў, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Арлоў, Віктар Скарабагатаў — гэта людзі, якія не зьяўляюцца апазіцыйнымі дзеячамі. Гэта нашая творчая інтэлігенцыя.

Перад тым, як працягваць гутарку наконт маючага адбыцца зьезда (ці Кангрэса, як яго яшчэ называюць), зазірнем у недалёкую гісторыю: калі ж праводзіліся I і II зьезды, дзе, пры якіх умовах? Пра Першы Ўсебеларускі зьезд мы ўжо падрабязна пісалі ў нумары 2. Нагадаем, што праведзены ён быў у сьнежні 1917 у горадзе Менску. На кангрэсе прысутнічалі 1872 дэлегаты-прадстаўнікі розных пластоў грамадзства (ад простых сялян да інтэлігенцыі), якія былі абраныя на сходах грамадзян па ўсёй Беларусі. Вынікам дзейнасьці таго кангрэса было стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), якая і дала пачатак БССР. Такім чынам, тая падзея была лёсавырашальнай для Беларусі.

Другі Усебеларускі зьезд прайшоў у Менску ў 1944 годзе пад наглядам немцаў. На ім дэлегаты згадзіліся з ідэяй змаганьня за незалежнасьць Беларусі, хоць і мусілі прызнаць панаваньне над сабой немцаў. Другі зьезд ня быў асабліва патрэбнай падзеяй, бо так нічога і ня даў нашаму народу.

І вось на падыходзе трэці зьезд. Ідэя яго правядзеньня — бэзумоўна, станоўчая. Зараз такі час, што трэба паказаць сьвету, што беларусы хочуць жыць заможна, добра, хочуць быць прызнанымі ў міжнароднай супольнасьці, хочуць мець незалежную краіну і не зьбіраюцца моўчкі глядзець на тое, што з імі робіць лёс. Мэтай скліканьня трэцяга Ўсебеларускага зьезду ёсьць таксама прыняцьце дэклярацыі, якая і вызначыць далейшы шлях разьвіцця Беларусі, адлюструе сапраўдныя думкі жыхароў нашае краіны на гэты конт. Згадзіцеся, справа патрэбная.



*Вінцук Вячорка, старшыня БНФ*

Хтосьці з ініцыятараў правядзеньня гэтай акцыі заявіў, што трэба вылучаць дэлегатаў ад народа па прынцыпе, які быў выкарыстаны ў 1917 годзе.

І вось, справа распачалася. Быў створаны аргкамітэт па правядзеньні кангрэса. Былі праведзеныя сходы грамадзян ў розных гарадох Беларусі, у тым ліку і ў Віцебску. На гэтых сходах жыхары галасавалі за прапанаваныя кандыдатуры (сьпіс якіх быў падрыхтаваны загадзя). На «сход» у Віцебску зьявілася каля 100(!) чалавек. За гадзіну амаль адзінагалосна былі зацьверджаныя каля 12 кандыдатур. Усе абраныя дэлегаты — барацьбіты за беларускасьць, за незалежнасьць краіны. Гэта мо і добра, але пры такім раскладзе ні пра якую легітымнасьць пастаноў Усебеларускага зьезду казаць немагчыма: на ім будзе прадстаўлены не НАРОД, а толькі яго нацыянальна-сьвядомая частка. Таму зьезд ня будзе мець паўнамоцтваў выступаць ад імя усяго беларускага народа. Гэта будзе чарговая сходка прадстаўнікоў апазіцыі і ёй спачуваючых. Ня болей за тое. Зараз людзі, у масе сваёй, нават ня ведаюць пра маючы адбыцца кангрэс: раскруткі ідэі няма ніякай. Некаторыя апазіцыйныя газэты, канешне, надрукавалі абвесткі, але ня ўсе людзі чытаюць тыя выданьні. Дзяржаўныя ж СМІ, зразумела, маўчаць. Былі надрукаваныя й улёткі, але зусім неінфарматыўныя і ў малай колькасьці.

Незразумелая таксама пасьпешнасьць у правядзеньні кангрэсу: спачатку ён мусіў адбыцца 14-15 ліпеня, зараз трохі перанесьлі — на 29. Ясна, што за такі тэрмін немагчыма добра падрыхтаваць грамадства да гэтай акцыі, а тым больш — разабрацца з усімі арганізацыйнымі пытаньнямі. Толькі чатыры чалавекі з паўсотні прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацыяў, што працуюць над падрыхтоўкай зьезду, выказаліся за перанясеньне акцыі бліжэй да ці на восень (сярод гэтых чатырох, дарэчы, быў і Вінцук Вячорка — старшыня БНФ «Адраджэньне»).

Але, нягледзячы на адносіны рэдакцыі «Вераса» да гэтай падзеі, мы ўсё ж вырашылі інфармацыйна падтрымаць акцыю.

1 чэрвеня 2000 года сустаршыні Аргкамітэта Ўсебеларускага зьезда прынялі рашэньне вынесьці на шырокае грамадскае абмеркаваньне праэкт Акта Незалежнасьці Беларусі і зьвярнуцца да сродкаў масавай інфармацыі з просьбай апублікаваць гэты дакумэнт. Дзеля яго ўдасканаленьня зацікаўленыя асобы і арганізацыі маюць магчымасьць даслаць на адрас Сакратарыята свае прапановы наконт зьменаў і дапаўненьняў. Усе яны будуць разгледжаныя і ўлічаныя пры канчатковай падрыхтоўцы Акта Незалежнасьці Беларусі, які мяркуецца прыняць на Зьездзе.

Кантактны тэлефон Сакратарыята Ўсебеларускага зьезда: (017) 2236529. Адрэса для карэспандэнцыі: 2200065, Мінск, а/с 297.

*Манцэвіч Яраслаў, «Верас»*

---

**Нашыя віншаваньні тым сябрам ВСМ «Верас», якія ў гэтым годзе скончылі школу! Жадаем ім зь лёгкасьцю паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, атрымаць добрую адукацыю і улюбёную працу ды зрабіць сваю Радзіму зноўку квітнеючай і заможнай!**

# Праект
# Акт Незалежнасці Беларусі

Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,
- усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі;
- напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;
- грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

ЗАЯЎЛЯЕМ:

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты —свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці павінны праследавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце былі замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года легітымна абраным парламентам. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і нашчадкаў. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны праз рашэнні вышэйшых дзяржаўных асоб і органаў і нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад пагрозу. Рэальнай небяспекай ёй стаў дагавор аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі ўлад, чыя легітымнасць ставіцца пад сумненне ў большасці краін свету. Не бывае двух суверэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы — за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам ніякай дзяржавы. Суверэнітэт не можа перадавацца іншай дзяржаве ці новастворанаму дзяржаўнаму ўтварэнню.

Незалежнасць - гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда,

СВЕДЧЫМ:

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

АБВЯШЧАЕМ:

Дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

ПРЫЗНАЕМ:

Не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

ЗАКЛІКАЕМ:

Міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол ідэй Акта Незалежнасці.

***Жыве Беларусь!***

# Нізка навінаў

5-га ліпеня старшыня Менскай раённай рады БНФ «Адраджэньне» Юрась Зянковіч атрымаў па пошце позву з суду Менскага раёну і горада Заслаўя з патрабаваньнем зьявіцца 10-га ліпеня у 10:30 у суд у якасьці парушальніка артыкула 161-1 КаАП. Гэты артыкул прадугледжвае пакараньне тых, хто прадае грамадзянам віно хатняга вырабу — самагон. Такім чынам, сябра Сойму вядучай беларускай апазыцыйнай партыі абвінавачаны ў самагонаварэньні. Больш таго, Юрась Зянковіч ня памятае, каб на яго складаўся пратакол за гэтае правапарушэньне. Але ў суда, відаць, іншая думка. Менская раённая Рада БНФ «Адраджэньне» запрашае усіх журналістаў наведаць гэты надзвычай цікавы працэс.

*Прэсавая служба БНФ «Адраджэньне»*

* * *

Нядаўна Беларусь перайшла на ўзаемаадносіны з Расійскай Фэдэрацыяй па міжнародных прынцыпах тэлефоннай нумарацыі. Беларусы, якія хочуць зьвязацца з Расіяй, цяпер павінны набраць 8-10-7, далей — код горада і тэлефонны нумар абанента.

* * *

З 16 чэрвеня ўведзеныя новыя тарыфы на паслугі сувязі: 1 хвіліна размовы па міжнароднай сувязі ў межах вобласьці каштуе 4,7 рублі (для насельніцтва), у межах рэспублікі — 9,4; адно слова ў звычайнай тэлеграме — 7,6. З пачатку года амаль на 50% узрасьлі спажывецкія цэны. З 1 ліпеня падаражэў ў сярэднім на 20% кошт пуцёвак у санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынку.

*«Рабочы»*

* * *

В правозащитный центр Весна обратился Ян Гриб, задержанный 19 мая около здания Минского городского суда во время оглашения приговора Михаилу Чигирю. Он сообщил, что на 22 июня был вызван в суд Фрунзенского района Минска, где его административные материалы рассматривала судья Виктория Степанова. На требование Гриба вести судебное рассмотрение по-белорусски, судья нервно и недовольно спросила: «Неужто вы не знаете русского языка?» На это Гриб ответил, что предпочёл бы всё-таки использование родного ему языка После продолжительного раздумия Степанова сказала, что ему будет выписана повестка на 4 июля и обеспечен переводчик. На требование Гриба в секретариате выписать ему повестку по-беларусски, три бойкие девушки стали хором угрожать составить на него протокол за неуважение к суду и привлечь к ответственности. Возмущенный таким отношением, Гриб отказался брать повестку, написанную на русском языке, и покинул здание суда.

*Центр «Весна»*

* * *

У ноч з 4 на 5 ліпеня ў Віцебску пад час масавых народных гуляньняў на штогадовым фэсьце «Славянскі базар» былі затрыманыя лідэр Віцебскага аддзяленьня «Маладога Фронту» Віктар Шляхцін і кіраўнік Цэнтра Моладзевых Ініцыятываў «Контур», сябра БНФ «Адраджэньне» Юрась Корбан. Затрыманьныя рас-

паўсюджвалі ўлёткі з заклікамі прыняць удзел ва Ўсебеларускім Зьездзе. У раёне гарвыканкама патруль міліцыі пад кіраўніцтвам старэйшага сяржанта Шынкевіча палічыў дзеяньні бэнээфаўцаў антыўрадавымі і правўў затрыманьне. Затрыманыя былі дастаўлены ў Кастрычніцкі райадзел міліцыі. Пасьля высьвятленьня асобаў В. Шляхцін і Ю. Корбана адпусьцілі. Апошнія працягнулі распаўсюд улётак. На думку кіраўніка праваабарончых праграмаў ЦМІ «Контур» К. Смолікава дзеяньні В. Шляхцін і Ю. Корбана ня мелі антыдзяржаўнага зьместу і затрыманьне трэба лічыць незаконным. Пацярпелыя намераны падаць скаргу на незаконныя дзеяньні міліцыі ў пракуратуру.

*Прэсавая служба «Контура»*

* * *

За апошні час у Беларусі было зьдзейсьнена некалькі крадзяжоў у офісах праваабарончых структураў. 20 траўня было ўзламанае памяшканьне арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву», праз тыдзень падобнае здарылася з офісам «Цэнтру па правах чалавека». Яшчэ раней, напрыканцы мінулага года, невядомыя зрабілі «рэвізыю» ў Беларускім Хэльсынскім Камітэце. Гэтая інфармацыя ўтрымліваецца ў звароце групы расейскіх праваабаронцаў.

*BARC-ID List.*

# Ford апусціў рукі. Амерыканскія інвестары ўцякаюць з Беларусі

Сусветна вядомая карпарацыя Ford Motor Company спыняе вытворчасць аўтамабіляў на заводзе пад Мінскам. Пра гэта афіцыйна паведаміла ў пятніцу кіраўніцтва кампаніі. Апошні аўтамабіль беларускай зборкі пакіне сцены завода ў пасёлку Абчак Мінскай вобласці ў ліпені гэтага года.

Нагадаем, што завод сумеснага прадпрыемства «Форд Юніан» урачыста адкрыўся ў 1997 годзе. Кантрольны пакет акцыяў СП (51%) належыць Ford Motor Company, 26% мае беларуская дзяржава, а 23% — кампанія «Лада ОМС». Завод збіраў з замежных камплектуючых дзве мадэлі аўтамабіляў: легкавікі Ford Escort і мікрааўтобусы Ford Transit. Каштавалі яны па беларускіх мерках нямала — 13 тысяч доляраў за Escort і 18 тысяч – за Transit. Праектная магутнасць завода — 6 тысяч аўтамабіляў у год, аднак рэальны выпуск прадукцыі быў куды меншы. Напрыклад, летась на заводзе «Форд Юніан» было сабрана толькі 440 легкавікоў і мікрааўтобусаў. Гэта напрамую звязана з крызісам у Расіі.



Справа ў тым, што прадпрыемства «Форд Юніан» адразу пачынала працаваць з разлікам на расійскі рынак. Як паведамілі нам у ягонай прэс-службе, у Беларусі прадавалася не больш за 15% усёй прадукцыі завода, усё астатняе ішло ў Расію. Аднак расійскі крызіс 1998 года паказаў марнасць спадзяванняў кампаніі – для большасці кліентаў стала немагчыма набываць аўтамабілі нават беларускай зборкі. Тым болей, што Расія адмовілася прызнаць «форды», што збіраліся ў Абчаку, уласна беларускай прадукцыяй – і абклала істотнымі мытнымі пошлінамі. Цікава, што падчас свайго выступу на прэс-канферэнцыі ў Лондане прэзідэнт еўрапейскага падраздзялення карпарацыі Нік Шыл казаў пра «закрыццё» завода ў Мінску. А прэс-рэліз, разасланы мясцовымі прадстаўнікамі Ford, кажа толькі пра «спыненне вытворчасці мадэляў Escort і Transit». Вельмі падобна да захавання «добрай міны пры кепскай гульні».

Спадзяванні беларускіх уладаў, што ўслед за «Фордам» да нас прыйдуць іншыя буйныя заходнія інвестары, праваліліся. У свой час кіраўніцтва Беларусі рабіла ўсе высілкі, усе магчымыя намаганні, каб заплучыць Ford да сябе. «Палатка» нават прымала асобны закон для Ford – аб вызваленні яго ад асноўных падаткаў на працягу 5 гадоў. Праўда, потым прэзідэнту давялося адмяняць гэты закон.

Закрыццё завода ў Абчаку – не адзіны захад Ford у барацьбе за прыбытковасць. Прэзідэнт еўрапейскага падраздзялення карпарацыі Нік Шыл паведаміў, што па ўсёй Еўропе Ford скарачае 1.400 чалавек. У асноўным гэта датычыць супрацоўнікаў завода ў горадзе Дагенхем (Вялікабрытанія), дзе згубіць працу адразу 1.900 чалавек, з якіх Ford зможа пасля працаўладкаваць толькі 500. Нік Шыл назваў даходы еўрапейскага падраздзялення «непрымальнымі» — летась Ford згубіў тут 55 мільёнаў доляраў. Ён таксама пабяцаў, што завод у Дагенхеме будзе пераўтвораны ў глабальны цэнтр па вырабе дызельных рухавікоў. Але ён не сказаў нічога пра далейшы лёс беларускага прадпрыемства. У беларускім прадстаўніцтве кампаніі кажуць, што «цяпер ідзе праца над гэтым». Займаецца гэтым не толькі Ford, але і ягоныя партнёры – дзяржава і «Лада ОМС». Трэба разумець, цяпер шукаецца пакупнік на гэтыя магутнасці. Па словах супрацоўнікаў «Форд Юніан», канчатковае рашэнне пра лёс завода будзе прынятае ў чэрвені.

Няясным застаецца і лёс рабочых, што працуюць цяпер на «Форд Юніан». Гэта 124 чалавекі, якія праходзілі спецыяльнае навучанне на прадпрыемствах Польшчы, Вялікабрытаніі, Германіі.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ, «Наша Свабода»*

# Крымінальная расейская папса

Расейскі поп-сьпявак Філіп Кіркораў абразіў беларускіх міліцыянтаў, якія ахоўвалі ягоны менскі канцэрт. «Альфа-радыё» ў сераду прыносіла прабачэньні і міліцыі, і гледачам за «недастойныя паводзіны госьця». Кіркораў абазваў міліцыянтаў, што ўтаймоўвалі ўтрапёных гледачоў, «палітычнымі прастытуткамі». Міліцыянты яму гэтага не даравалі і пасьля канцэрту раскідалі ягоную прыватную ахову і затрымалі сьпевака, пагражаючы арыштам. Той быў зьбянтэжаны — праз гадзіну ў яго ішоў цягнік на Маскву — дык мусіў прынародна прыніжана выбачацца.

Міліцыя дзейнічала жорстка, але паводле ўстаноўленых у нас законным чынам прынятых правілаў правядзеньня канцэртаў. Для гасьцёў з Расеі, дзе даўно ніякай улады ні законаў не засталося і ўсё вырашаюць грошы, гэта было нечакана і здавалася нават дзіка.

Беларуская міліцыя, найбольшая ваенізаваная сіла краіны, усё больш адчувае ўласную сілу.

А эстрада зноў прымусіла задумацца пра тое, як у беларусаў з расейцамі «мая твая не панімает».

Але гэта проста дробязі ў параўнаньні з тым, якія падзеі вакол маскоўскай эстрады цяпер разьвіваюцца ў суседняй Украіне.

Зьнікненьне ў падваротнях вулічных прадаўцоў расейскай папсы, беспарадкі ў Львове ў апошнія дні, ледзь не сарваны ў Кіеве на пачатку чэрвеня канцэрт Дзімы Малікава...

Усплёск радыкальных настрояў украінскай моладзі справакаваны жудаснай гісторыяй, што адбылася ў Львове яшчэ 8 траўня. У той дзень у адну з львоўскіх кавярняў зайшоў вядомы кампазытар і эстрадны выканаўца Ігар Білазір (часта выступаў разам з жонкай — Аксанай Білазір). У кавярні разгарэлася спрэчка паміж двума іншымі наведнікамі ды бармэнам: падпітыя наведнікі эмацыйна патрабавалі паставіць ім расейскія песьні Шуфуцінскага, Міхаіла Круга ці які-небудзь іншы «блатняк». Паводле словаў відавочцаў, Ігар Білазір умяшаўся ў спрэчку й паспрабаваў давесьці прыхільнікам блатных песень, што ўва Ўкраіне можна слухаць нешта больш прыстойнае. Канфлікт неўзабаве, здавалася, быў вычарпаны. Але, прычакаўшы, калі кампазытар выйдзе, двое злодзеяў кінуліся біць яго на вуліцы жалезнымі прутамі. Пакуль прыехала міліцыя, Білазір ужо ляжаў з праламаным чэрапам. Тры тыдні сьпявак знаходзіўся ў каматозным стане і ўрэшце памёр у шпіталі.

Злачынцаў затрымала міліцыя тамсама, на месцы. Неадкладна завялі крымінальную справу, але — вось дзіва! — на раніцу абодвух адпусьцілі пад падпіску аб нявыезьдзе. Высьветлілася, што адзін з нападнікаў, Дзьмітры Воранаў, старшы лейтэнант украінскага войска — сын намесьніка начальніка львоўскай гарадзкой міліцыі. На момант інцыдэнту Воранаў-малодшы падаў дакумэнты на паступленьне ў ваенна-дыпляматычную акадэмію. Ягоны падзельнік, адстаўны афіцэр Юры Калінін, ужо на другі дзень пасьля дачы падпіскі зьнік невядома куды. Гэты чалавек, калі верыць чуткам пра яго, нібыта мае прамое дачыненьне да гандлю зброяй.

Пахаваньне Ігара Білазіра 30 траўня вылілася ў стыхійны мітынг. Ягоны зьмест быў, зразумела, ня толькі антырасейскі, але і «антымянтоўскі». Пасьля пахаваньня разьюшаны натоўп людзей кінуўся да ўправы львоўскай міліцыі, думаючы ўзяць зьненавідны будынак штурмам. Тое самае магло б чакаць і пракуратуру, якая ніяк не адрэагавала на пакрываньне міліцыяй цяжкага злачынства. Штурм не адбыўся, у натоўпе не знайшлося кіраўніка.



*Пахаваньне барда*

Львоўскія дэпутаты й прадстаўнікі мэрыі тут жа прыбылі на месца беспарадкаў ды сьлёзна паабяцалі правесьці сьледзтва й справядлівы суд. Аднак многія жыхары места ня вераць абяцаньням уладаў. 8 чэрвеня, на дзевяць дзён са сьмерці забітага, нацыянальна сьвядомыя львавяне адзначылі чорную дату мітынгам. Улады напярэдадні рыхтаваліся да вялікіх беспарадкаў: у Львоў былі сьцягнутыя войскі і спэцсілы міліцыі з усяе Ўкраіны. Расейская музыка цяпер у Львове persona non grata.

*Тацяна Сьнітко, «Наша Ніва»*

# Расклад вяшчаньня Беларускай рэдакцыі радыё «Палёнія» на кароткіх хвалях

| № | Час перадачы | Частоты | Дыяпазоны | Працягласьць вяшчаньня |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 14.30 | 7285 кГц<br>5995 кГц | 41,18 м<br>50,04 м | 25 хвілін |
| 2. | 16.30 | 6035 кГц<br>5995 кГц | 49,74 м<br>50,04 м | 55 хвілін |
| 3. | 19.30 | 7285 кГц<br>6000 кГц | 41,18 м<br>50,00 м | 25 хвілін |
| 4. | 20.00 | 7180 кГц<br>6035 кГц | 41,78 м<br>49,71 м | 55 хвілін |
| 5. | 23.30 | 7340 кГц<br>6035 кГц | 40,87 м<br>49,71 м | 25 хвілін |

***Напісаць на Беларускую рэдакцыю радыё "Палёнія" можна па адрэсах:***

**Redakcja Bialoruska Radia Polonia, skr. poczt. 46, 00-977 Warszawa, Polska/Польшча** ***або*** **Беларуская сэкцыя радыё "Палёнія", а/с 5, г. Віцебск, 210038, Беларусь.**

# Слоўнічак

У гэтым нумары мы працягваем размову пра «Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак» Янкі Станкевіча.

Расейскім словам «большой» і «великий» у беларускай мове адпавядае адно: «вялікі». Кажуць, прыкладам, «вялікі камень», «вялікі конь» і «Усяслаў Вялікі», «Вітаўт Вялікі» і пад. Але ў ступенях параўнаньня ёсьць ужо два варыянты: «большы», «найбольшы», што адпавядае рускім «большой» і «самый большой» і «вялікшы», «найвялікшы» — «величайший». Прыклад: «величайшее произведение искусства» перакладаецца як «найвялікшы твор мастацтва».

Заўсёды кажуць «вялікі дождж», «вялікі град», «вялікі сьнег», «вялікі мароз» і да т.п., а ня «сільны дождж» і г.д. Тое ж тычыцца і такіх выразаў, як «вялікае пачуцьцё», «вялікае каханьне», «вялікі боль»...

Наогул, слова «сільны» ў сучаснай беларускай мове не ўжываецца, хоць і засталіся аднакарэнныя словы («сілком», «асілак», «дужасіл» (рас. «силач»), «сілкавацца» (рас. «питаться») і некаторыя іншыя). Рускае «сильный» перакладаецца словам «дужы» (дужы чалавек, дужы конь).

Маскоўскаму «крупный» адпавядае беларускае «буйны» (націск на «ы»). Зараз гэтае слова ўжываецца і ў канкрэтным, фізічным сэнсе (буйное зерне, буйны дождж, буйны боб), і ў пераносным (буйны горад, буйны цэнтар).

«Грацъ», «граньне» можа быць толькі на музычным інструмэнце (граць на скрыпцы, цымбалах і г.д.). «Гуляць», «пагуляць», «згуляць» маюць гэткія значэньні: 1. Нічога не рабіць, быць не занятым. 2. Забаўляцца (Дзеці гуляюць). 3. Гуляць у якую гульню (Дзеці гуляюць у шахматы). 4. Згуляць вясельле (рас. «Сыграть свадьбу»). 5. Гуляць у тэатры (драму, камэдыю).

Трэба адрозьніваць ужываньне словаў «замыкаць», «запіраць», «засоўваць», «зашчапляць», «адчыняць/зачыняць». Замыкаюць толькі на замок. Засоўваюць толькі на засоўку. На кручок зашчапляюць. Усё гэта гуртам «зачыняюць». Зачыняць жа можна яшчэ й вочы, вусны, рот, кнігу, сшытак. А «закрываюць» рот, вочы, вусны — рукой, хусткай і пад. Вочы, акрамя таго, заплюшчваюць. Пасяджэньні адчыняюць і зачыняюць.

Калі чагось не стае (рас. «не хватает»), дык таго «нястача» ці «брак». Прыкладам, калі не стае хлеба, тады «нястача хлеба». Калі не стае шмат чаго матэрыяльнага (стан блізка зьвязаны з беднасьцю), то гэта таксама завецца «нястачай». Тут нястача ёсьць першай ступеняй таго, чаго апошняй ступеняй ёсьць «галеча» (рас. «нищета»). Бывае яшчэ нястача асьветы, волі, розуму і пад.

Слова «недахоп» — русізм, бо гэты непатрэбны нэалягізм утвораны паводле маскоўскага «недостаток».

Што ж можна «ганіць/ганьбіць» (рас. «порицать», «осуждать»), тое ёсьць «заганай» (рас. «недостаток»). Гэтак заганаю ёсьць ленасьць, неакуратнасьць. Заганаю ежы можа быць нястача ў ёй вітамінаў, бялку.

Аднолькавае значэньне маюць словы «зычыць, зычэньне, зычлівы» і «жадаць, пажаданьне, пажаданы». Можна зычыць або жадаць чалавеку посьпехаў, шчасьця і пад.

«Суцэльны» ў фізічным дачыненьні абазначае штосьць зробленае з аднаго матэрыялу (прыкладам, суцэльная палка). У расейскай мове гэтаму адпавядаюць словы «цельный», «целостный», «сплошной».

«Адзіны» значыць тое ж, што і «адзін», але з вялікім падкрэсьліваньнем і адпавядае рускім «единственный», «единый» (пр. адзіны Бог). «Задзіночыць», «задзіночыцца» значыць злучыць у адно, зьліцца ў адно, рас. «объединиться». «Задзіночаны» — «объединённый»; «задзіночаньнe» — «соединение, объединение». Блізкае да гэтага ёсьць «злучыць, злучаны, злучэньне».

«Колькі» ўжываецца і як у значэньні руск. «сколько», так і ў значэньні «несколько». Прыкладам, «Уже несколько лет прошло» будзе «Ужо колькі год мінула» альбо «Сколько денег осталось?» — «Колькі засталося грошай?»

Вось і прайшліся мы па старонках слоўніка Янкі Станкевіча. У наступным нумары ў разьдзеле «Слоўнічак» чакайце сьпіс беларускіх прыказак з расейскімі адпаведнікамі ўсё з гэтай жа кнігі (кшталту «Бить баклуши — Байды біць» альбо «В тихом омуте черти водятся — Хто ціха ходзіць, той густа месіць» ды інш.)

Нагадаю, што набыць гэтую цудоўную брашурку, ды яшчэ шмат розных карысных выданьняў можна ў Менску на Румянцава, 13 (офіс Таварыства беларускай мовы).

*Манцэвіч Яраслаў, «Верас»*

# ЧЭСКАЯ ВАНДРОЎКА

Слова Чэхія мае шмат асацыяцыяў-стэрэатыпаў у беларусаў, Гэта й танкі у 1968-м, і сыходса савецкіх войскаў у 1989-м. Гэта і меркаваньне, што нават пад Саветамі яны жылі лепш за нас, больш па-эўрапейску. З гэтых уяўленьняў вынікаюць іншыя стэрэатыпы, напрыклад, што чэхі ня любяць рускамоўных. Едучы ў Чэхію, мела шэраг стэрэатыпных уяўленьняў і я. Большасьць зь іх, як высьветлілася, проста міты.

ЧЭСКАЯ МОВА

Першае ўражаньне я атрымала ўжо на вакзале. Акрамя пачуцьця адзіноты ў агромністай прасторы, тут яшчэ зьверху чуеш голас і разумееш толькі адно слова — «Позор!». Не магу сказаць. што гэта спрыяе аптымістычнаму настрою. Далей ты не разумееш нічога, але ўражаньне даволі непрыемнае. Наогул, першы дзень успрыняцьця мовы перапужаў мяне настолькі, што я амаль зьмірылася з тым, што ня прыйдзецца мне паразумецца з чэхамі ніколі. Аказалася, трй жа «позор» — гэта «ўвага». А слова «ано» — гэта слова згоды, беларускае «так». «Заказано» — гэта «забаронена».

Доўга я не магла зразумець, што азначае слова «нападло». Маючы цьвёрдую асацыяцыю з аднакарэннымі словамі з менскага маладзёвага слэнгу, я доўга ня мела сьмеласьці высьветліць у чэхаў, што гэта азначае. Аказалася. што нічога дрэннага, — «нарэшце» ці «у рэшце рэшт, напрыканцы». Харч чэхі называюць «потравіны», а агуркі — «окуркамі». Вымавіць назву марожанага па-чэску так, каб ніхто не пачуў усходнеславянскага акцэнту, я так і ня здолела — слова «змрзідло» мае занадта мала галосных для майго даволі беларускамоўнага языка.

Але самы файны момант неразуменьня мовы патрапіўся мне на пачатку падарожжа. Праходзячы міма мяне, нейкая дзяўчына сказала містычна незразумелую фразу: «Матэ красны калготы». Я аўтаматычна паглядзела на ногі, дзе тэарэтычна маглі быць калготы, і зрааумела, што яны як мінімум не чырвоныя. Падумала, можа на чэскай мове гэта азначае, што яны парваліся, але ніякіх падставаўдля гэтага не знайшла. Паглядзела на дзяўчыну, якая ўжо адыходзіла, вар'яцкі-запытальным позіркам, на што яна мне сказала нешта накшталт «чэскі», і я зразумела, што я губляю лёгіку. Урэшце, палазіўшы як сьлед у размоўніку, я дазналася, што «калготы» — гэта «нагавіцы», а «красны» — гэта «прыгожыя». А тое, што яна дадала, было яе запэўніваньнем у шчырасьці заўвагі.

ЧЭХІ І БЕЛАРУСЫ

Шмат чуўшы пра тое, што яшчэ многа месцаў у сьвеце, дзе ня ведаюць ні пра Беларусь, ні пра Чарнобыль, ні пра дыктатуру Лукашэнкі, я прыклала пэўныя намаганьні, каб зрабіць сваё ўражаньне пра інфармаванасьць чэхаў аб нашай беларускай старонцы.

Большасьць чэхаў, зь якімі я стасавалася, былі ці студэнтамі, ці журналістамі. Натуральна, гэта вымагала большай інфармаванасьці, чымсьці ў звычайнага працоўнага люду. Прынамсі, студэнт эканамічнага факультэту цудоўна арыентаваўся ў беларускай палітычнай сытуацыі і нават з час-

*Працяг на наст. стар.*

# ЧЭСКАЯ ВАНДРОУКА

тковым посьпехам узгадваў прозьвішчы беларускіх апазыцыянэраў. Гэта былі Пазьняк і Чыгір.

Наогул, чэская прэса даволі рэзка і нечакана павярнулася тварам да Беларусі, палічыўшы нялішнім знаёміць сваіх чытачоў з нашымі падзеямі, у прыватнасьці, вясновымі. Тым больш што чэскія парлямантарыі нават папрысутнічалі на адной з вясновых акцый — 26 красавіка. На канферэнцыі, што яны ладзілі, вярнуўшыся дахаты, яны выказвалі вельмі рэзка негатыўнае стаўленьне да дыктатуры на Беларусі і адзначалі неабходнасьць наладжваньня больш цесных кантактаў з Беларусьсю неафіцыйнай.

Пакаленьне сталага веку. адрозна ад моладзі і палітычных колаў, значна меньш цікавіцца міжнароднымі падзеямі наогул і беларускімі ў прыватнасьці. Яны засяроджаныя на сваіх уласных праблемах.

ЧЭХІЯ І ЭМІГРАНТЫ

«Уцякач» па-чэску гучыць як «упырхлік». Упырхлікаў вельмі шмат. Пераважаюць рускія, беларусы, украінцы. Рускамоўнае насельніцтва мае свой амаль што паралельны сьвет. Рускамоўныя газэты і часопісы, рускамоўныя рэстарацыі, клюбы. салоны-цырульні і іншыя інстытуцыі, дзе можна забыцца на тое, што жывеш у краіне, дзе размаўляюць на чужой мове.

Першае, з чым сутыкаецца эмігрант, патрапіўшы на жаданую дый доўгачаканую капіталістычную зямлю, гэта — жорсткасьць капіталізму. Лёзунг «Хто не працуе, той і есьці ня будзе» традыцыйна прыпісваюць сацыялістычна-камуністычным законам жыцьця на пачатку Кастрычніка. Але насамрэч капіталізм. як Масква, сьлязам веры не дае.

І вось упырхлік сутыкаецца з тым, што трэба вучыць мову, як мінімум чэскую. І пажадана яшчэ мець замежную, дый лепей не адну. Гэта першае. Другое — працаваць трэба шмат і цяжка, незалежна адтаго, фізічная гэтая праца ці інтэлектуальная. Перабудавацца з сацыялістычнага падыходу да працы даволі цяжка. Якраз на гэтым этапе й высьвятляецца, хто ўцякаў аддрэннага жыцьця да добрага, а хто ўцякаў уласна ад сябе.

Нягледзячы на праблему беспрацоўя, у Чэхіі некаторыя ўцекачы даволі цьвёрда трымаюцца на нагах, знайшоўшы працу калі й не па душы, то якая хаця б матэрыяльна дае падставы пачуваць сябе досыць упэўнена. У пашане прафэсіяналізм у галінах кампутарных тэхналёгіяў, веданьне вялікай колькасьці моваў, юрыспрудэнцыі, эканомікі.

ЧЭХІ І ПРАТЭСТЫ

Ніякіх асаблівыхдэманстрацый пратэсту я ня бачыла. Затое ўразіла, як моладзь выказвала пратэст супраць зачыненьня іхняй улюбёнай кавярні.

Кавярня была — супэр. Называлася «Тыньска літарарна кавярня», бо зьмяшчалася ў сэрцы старога горада на вуліцы Тыньскай, і мелалягендудоўгага існаваньня, пэўную атмасфэру вольнага творчагадуху, уласьцівагалітаратарам дый іншым творчым людзям. Моладзь тут зьбіралася адметная — адрозная ад усіх астатніх. Гэта было іхнае месца сустрэч, дыскусый, спрэчак і проста сяброўскай балбатні.

У апошні дзень існаваньня кавярні там было чалавек 250 без перабольшваньня, але, мяркую, і больш. На століках гаспадары кавярні расклалі развітальныя лісты-улёткі і заклікдалучаццада іхняй акцыі пратэсту. Рэч у тым, што гаспадарам кавярні без усялякіх тлумачэньняў адмовілі ў працягваньні ліцэнзаваньня. Хадзілі чуткі, што меў месца хабар, месца проста перакупілі і цяпер зробяць з яго чарговую турыстычную рэстарацыю, якіх і так — на кожным кроку.

Разьвітвалася моладзь да апошняй кроплі сіл у маладым целе і да апошняй кроплі алкаголю ў бары. Чарга ў бар была ня лепшая за традыцыйныя беларускія за мяснымі прадуктамі. У асобным пакойчыку плошчай прыкладна 9 на 9 пад цыганскую музыкуўжывым выкананьнітаньчылі чалавек 60. Як яны там зьмяшчаліся, я не зразумела. Але на ўласныя вочы бачыла, што яшчэ й скакалі вышэй даху.

На наступны дзень перад барам сабралося прыкладна 150 чалавек з невялікай труной у руках. Гэтую труну, якая была падпісана «Тыньска літарарна кавярня», панесьлі, сьпяваючы сумныя песьні, да будынку магістрату. Там да ганку адміністратыўнага будынку былі прынесеныя ахвяры і ахвяраваньні ў шанаваньне памяці кавярні. Магістрат ніяк не адрэагаваў. Але моладзь, як я зразумела, на гэта асабліва й не разьлічвала. Гэта быў ушанавальны пэрфоманс.

*Юлія Дранчук, «Згода»*

# «Балець» забаронена, альбо «народ, без эмоцыяў»!

Апошнім часам стала да агіды непрыемна наведваць любыя спартовыя спаборніцтвы па гульнявых відах спорту, калі яны праходзяць у Беларусі, і ў Мінску ў прыватнасці. Ці то гэта футбол, ці то хакей, альбо нават баскетбол – без розніцы. Заўсёды існуе рызыка больш папсаваць сабе на гульні нервы, чым адпачыць, расслабіцца ды выкінуць лішнюю энергію, эмоцыі. Прычына гэтага – надзвычай жорсткі, проста грубы міліцэйскі кантроль за любым рухам аматара спорту, які ўсталёўвайся ў нашай краіне апошнія прыкладна 5-6 гадоў (улоўліваеце, з чаго ўсё пачалося?).

Тыя, хто наведваў спаборніцтвы ў 1993-1994 гадах, памятае тую атмасферу ўзаемнай згоды і разумення, што панавала ў шэрагах заўзятараў у той час. Галоўнай мэтай паходаў на спаборніцтвы была падтрымка сваёй каманды – што вельмі лагічна.

Сітуацыя пачала кардынальна змяняцца дзесьці ў пачатку 1995 года. Падчас афіцыйнай гульні нацыянальнай каманды Беларусі па футболе са зборнай Мальты 26



*Беларускія фанаты*

красавіка ў гледачоў канфіскоўвалі сцягі бел-чырвона-белых колераў – не зважаючы на тое, што гэты сцяг яшчэ афіцыйна прызнаваўся дзяржаўным. Зрэшты, змяненні закранулі не толькі «ідэалагічную» частку заўзятараў, але і тых, хто проста жадае падтрымаць «сваіх», не хаваючы эмоцыяў суперажываць разам з спартоўцамі кожны гол, пас або небяспечны момант. Такім чынам аматары спорту здымаюць свой стрэс, расслабляюцца і паляпшаюць сваё самаадчуванне. Ва ўсякім разе, так ва ўсім свеце.

Але ж у Беларусі ўсе гэтыя бурныя воклічы, мусіць, пачалі не падабацца і раздражняць кагосьці «наверсе». У выніку, увосень 1995 года падчас гульняў футбольных еўракубкаў упершыню ашаломленыя балельшчыкі пачулі міліцэйскія мегафонныя заклікі кшталту: «Граждане, давайте на футболе без эмоций, вы же не на митинге!» альбо «Вы что, на футбол кричать пришли или смотреть? Сидите тихонько и хлопайте!» Спачатку гэты разгул абсурду вельмі раздражняў і запалохваў большыню «фанатаў», але пазней на выкрыкі міліцыянтаў пачалі проста не звяртаць увагу. І вось тады настаў час сапраўднай «трыбуннай дыктатуры».

Спачатку заўзятарам забаранілі праносіць на стадыён піва і безалкагольныя напоі ў шкляной тары, бо, маўляў, імі можна кінуць і параніць футбалістаў. Пазней пад забарону трапіла піва банкачнае, а яшчэ пазней было забаронена прадаваць піва, віно і, зразумела, гарэлку падчас міжнародных футбольных матчаў ва ўсіх крамах, што знаходзяцца на адлегласці, меншай за 500 метраў ад стадыёна. За мяжою ж піва ў пластыкавых шклянках прадаюць проста на стадыёне ў час гульні, і не бачаць у гэтым нечага крамольнага. Хаця ў нас, канешне ж, сітуацыя асаблівая, бо на гульні ходзіць адзін нам усім вядомы чалавек, які, як сам прызнаўся, «не то няп'ючы, не то мала п'ючы».

Паступова «рэпрэсіі» супраць заўзятараў пашырыліся яшчэ больш, займелі новы фармат. Хутка апроч футбола прыйсці з бел-чырвона-белым сцягам стала немагчыма на любую міжнародную сустрэчу – па хакеі, баскетболе альбо водным пола. Пазней гэтую практыку распаўсюдзілі на ўсе спаборніцтвы. І хоць у юрыдычным плане асоба, якая пачне махаць на гульні бела-чырвона-белым сцягам, нічым не рызыкуе – бо гэта абсалютна ніякае не парушэнне закона, – то ў маральна-грашовым плане губляе шмат. Інакш кажучы, выведуць цябе пад белы ручкі з гульні, і сцяг забяруць, і назад не пусцяць, і грошы за квіток не вернуць. Тым не менш, адважных заўсёды хапае.

Цікава, што такі «жалезны» парадак на трыбунах датычыцца толькі «сваіх» заўзятараў. Звярніце ўвагу, як паводзяць сябе міліцыянты і АМАП з групамі замежнікаў, што прылятаюць у Беларусь паперажываць за сваіх землякоў. Яны ж робяць тут, што пажадаюць! У памяці назаўжды адклаўся момант, калі падчас футбольнага матча Беларусь—Шатландыя шатландцы, перапіўшы віскі, проста ляжалі на тэрыторыі стадыёна з задранымі кільтамі (гэта такая спадніца ў клетку, якую ў Шатландыі носяць мужчыны), а беларускія міліцыянты асцярожна пераступалі цераз іх – каб не ўтварыць, барані Божа, «міжнародны рэзананс».

Але гэта з замежнікамі далёкімі. А з ужо амаль сваімі «дарагімі расіянамі» ў жніўні мінулага года беларускія праваахоўнікі абышліся па-свойску. У той дзень было затрымана больш за 50 расійскіх фанатаў, што памылкова не пабачылі адрознення паміж стадыёнам у Мінску і ў якім-небудзь Раменскім.

Між тым, непасрэдна ў спорце ў нас усё даўно ідзе на спад. І летась, і сёлета беларускія гульнявікі прайгралі амаль усё, што можна, ды яшчэ з такімі вынікамі, што, слухаючы зводку спартыўных навінаў, міжволі даводзілася чырванець. Нашым «стадыённым начальнікам» усе гэтыя няўдачы – прынцыпова «да лямпачкі». Менш выйграюць – менш будуць гуляць... Галоўнае – каб без эмоцыяў!

*Віктар СЕВЕРЦАЎ, «Наша Свабода»*

# Нізка навінаў

Аршанскія прадпрымальнікі, што працуюць на маршрутных таксі, якія даўно ўжо падмянілі гарадзкі грамадзкі транспарт (у Оршы іх каля 200), пачалі збор подпісаў пад лістом у адрас адміністрацыі прэзыдэнта, Падатковы камітэт і ў органы мясцовай улады. У звароце ўтрымліаецца заява аб тым, што кіроўцы практычна ня могуць працаваць у склаўшыхся ўмовах, калі з банкаўскага рахунку магчыма здымаць ня больш за 100 МЗП і толькі 50 МЗП можна патраціць на гаспадарчыя патрэбы. У выпадку невыкананьня патрабаваньняў па змяненьню становішча прадпрымальнікі пагражаюць забастоўкай.

* * *

На адной з галоўных плошчаў Віцебска адбыўся пікет у падтрымку асуджанага Міхаіла Чыгіра. Яго арганізатарамі сталіся віцебскія сацыял-дэмакраты, АГП і БНФ. Акцыя пачалася ў 17.00 і працягвалася гадзіну. Падчас яе ўдзельнікі зьбіралі подпісы за адмену прысуда Чыгіру і перагляд справы, таксама пікетоўшчыкі раздавалі ўсім жадаючым календарыкі з хвалямі радыё «Свабода» і запрашэньні на гарадзкі сход, на якім будуць вылучацца дэлегаты на ўсебеларускі з'езд. Сабраныя трымалі плякаты «Міхаіл Чыгір - не вінаваты!», «Чыгір - канкурэнт Лукашэнку, за што і асуджаны!». Усё прайшло без эксцэсаў, у акцыі прыняло ўдзел блізу 40 чалавек, у тым ліку актывісты моладзевых арганізацыяў «Малады Фронт» (mfront@visit.to) і «Верас» (vsm@veras.f2s.com).

* * *

Кнігу Эдуарда Акуліна пусьцілі на макулатуру. Зборнік вершаў «Радно» толькі выйшаў у выдавецтве «ПоліБіг», але аўтар патрапіў выратаваць толькі 10 экзэмпляраў кніжкі. Паводле словаў дырэктара выдавецтва, прычынай кніжнай экзэкуцыі сталася палітычная крамола, якую ўгледзелі ў вершах улады. На вечарыне аўтара адзін з уратаваных зборнікаў быў прададзены з аукцыёну за 25 тысяч.

* * *

Прыкладна тыдзень таму, раптам, пасьля перапынку ў два месяцы на паліцах крычаўскіх крамаў зьявіліся дэфіцытныя для мясцовага насельніцтва малочныя прадукты. Прычына такой шыкоўнасьці простая: візыт старшыні Магілёўскага аблвыканкаму. У сьвятле гэтага факту набылі сэнс і іншыя незразумелыя дзеяньні мясцовага кіраўніцтва — касмэтычны рамонт і прыборка цэнтральных вуліц.

* * *

Памеры невыплатаў заработнай платы па Магілёўскай вобласьці набылі апошнім часам сур'ёзныя памеры. Абласныя прадпрыемствы вінныя сваім працаўнікам больш за 2,5 мільярды рублёў. Гэты паказчык літаральна за апошні тыдзень вырас на 17 працэнтаў, прычым трэцяя частка сумы - гэта запазычанасьць, адтэрміноўка выплаты якой складае тэрмін, большы за месяц. Найбольш складаная сытуацыя ў сельскай гаспадарцы, у некаторых калгасах сяляне апошні раз атрымлівалі заробкі на самым пачатку году.

* * *

Менскі гарвыканкам не дазволіў газэце «Беларуская Маладзёжная» праводзіць гэтым летам фэстываль «Купальле зь Беларускай Маладзёжнай». Дагэтуль падобнага кшталту сьвяты ладзіліся штогод напрыканцы чэрвеня, пачынаючы з 1994 году. Намесьнік старшыні гарвыканкаму Віктар Чыкін матываваў адмову тым, што напярэдадні сьвяткаваньня 3 ліпеня ў парку Горкага, дзе рэдакцыя БМ намеравалася правесьці фэст, будуць праводзіцца рамонтныя работы. Праўда, адміністрацыя парку, якая дала папярэдні дазвол, пра маштабовыя рамонтныя работы даведалася ад журналістаў газэты.

*BARC-ID List*




*Яўген Царкоў, «Вожык»*

Нехяк прыходзіць прэзідэнт да свайго прэм'ер-міністра й пытаецца:

— Скажы мне праўду, таварыш прэм'ер-міністр. Якое будзе эканамічнае становішча Беларусі ў 2000 годзе?

— Ведаеце, таварыш Прэзыдэнт, эканамічнае становішча ў 2000 годзе будзе сярэдняе.

— Сярэдняе, кажаш. Ці ня мог бы ты ўдакладніць?

— Гэта значыць, лепшае чым у 2001, але горшае чым у 1999.

***

Беларусь вырашыла стаць бязьядзернай дзяржавай і паслала ўсе свае ракэты ў Амэрыку. У ЗША ракэты сустракалі Бостан, Чыкага, Вашынгтон і яшчэ 37 гарадоў.

***

Прыехаў прэзыдэнт наведаць калгас «Россвет». У клюбе сабралі калгасьнікаў. Пачалася сустрэча. Лукашэнка жартуе:

— Як жывяце, таварышы калгасьники?

Калгасьнікі жартуюць:

— Добра, Аляксандр Рыгоравіч!

*Карчма ў Старога Язэпа*

Аднойчы чамусьці зрабілася сумна.
Хіба толькі доктар мне тут дапаможа?
«Хвароба? Не, бруд рамантычных думак —
Іх выдаліць скальпелем з сэрца можна.
Жадаеце? Толькі адна недарэчнасьць...
Я перад тым, як за справу брацца,
Як доктар сумленны, хачу папярэдзіць:
Бяз сэрца зусім ёсьць рызыка застацца.
Не, вы не пужайцеся: сьвет гэты грэшны
Адразу пакінуць ня так ужо й проста.
Вы будзеце жыць, як жылі, ды, канешне,
Рамантыка вылеціць, як з горла костка.
Ня будзеце сьніць тое, што недарэчна,
І будзеце жыць спакайней, чым жылі вы,
Бо мары — для розуму рэч небясьпечная.
Але... што такое? Дзяўчынка, куды вы?»

*Люба Падзьвігіна*



ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 5. Самы знакаміты салдат у 20-ым стагоддзі. 8. Вялікая п'янка з прыгодамі. 9. Не пісталет, але яшчэ і не кулямёт. 10. Беларускі горад з жаночым імем. 12. Ладны кавалак лёду, які плавае сам па сабе. 13. Уеццa вяроўка, наперадзе — галоўка (загадка). 17. З пчалінага роду, ды ў большай вагавой катэгорыі. 18. Зміцер Жылуновіч — ... Гартны. 19. З яе слова не выкінеш. 20. Установа, якую наведвае чалавек з 7-мі да 17-ці гадоў. 23. Адзін з бацькоў «Залатога цяляці». 25. Мікалай Капернік па 5-ай графе. 26. Фамільярная назва даляра. 30. «Я мужык-..., пан сахі і касы». 31. Трава, якая вырастае на «біс». 32. Салдаты, афіцэры, генералы — ... .

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Ціхаакіянская сардзіна. 2. Зачэпка для карабля. 3. Падраздзяленне, якое не бывае без старшыны. 4. Навука, у якой шчыраваў кампазітар Барадзін. 6. Узрост вераб'я, што не падманваецца на мякіне. 7. Надта піць хочацца. 11. Салдат, які ўжо сядзіць на чамадане. 14. М. Лынькоў. «...-паравоз». 15. Жывёліна з рагамі-галінамі. 16. Куды іголка, туды і яна. 21. Рэчыва, якім не сапсуеш кашу. 22. Калектыў пад камандаю А. Ярмоленкі. 24. Адрэзаны вялікі плоскі кавалак хлеба, сала. 27. Прапагандыст свайго балота. 28. «Да пары ... ваду насіць». 29. Падатак, якім у старыя часы абкладваліся народы Сібіры і Паволжа.

*СклаўВ. ЖВАЛЕЎСКІ.*

Бюлетэнь **"ВЕРАС"**
*Рэдактары:* Яраслаў Манцэвіч, Андрэй Парфёнаў
*Паштовыя адрэсы:* gazeta@veras.f2s.com; Віцебск, 210032, а/с 29-А
*Заснавальнік:* Віцебская суполка моладзі "Верас" (vsm@veras.f2s.com). *Падтрымка:* USIS
*Выдавец:* Віцебскі цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур". *Друк:* ВА Фонда імя Л. Сапегі
*Наклад* 299. На правах рукапісу. Дзеля ўнутранага карыстаньня. **Распаўсюджваецца бясплатна.**